*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

www.nv-online.info

**№ 26 (3767)**

2 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АФІЦЫЙНА

## *Пасяўная затрымліваецца*

У Брэсцкай вобласці з-за вялікага снегу на палях затрымліваюцца практычна ўсе вясеннія палявыя работы. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года адставанне ўжо складае каля двух тыдняў.

Так, па стане на 1 красавіка мінулага года ў вобласці ўжо была пасеяна ўся яравая збожжавая група, праведзены падкормкі азотнымі ўгнаеннямі азімых пасеваў, шматгадовых траў, сенажацяў і пашы.

Па самых аптымістычных прагнозах, тэхніка зможа выйсці ў поле не раней за 15 красавіка.

Пасяўная кампанія ў Гомельскай вобласці пачнецца як мінімум на тры тыдні пазней, чым звычайна.

## *Виктор Вегера уволен из КГБ*

*Соответствующий указ Александр Лукашенко подписал 1 апреля. Однако это не шутка.*

Генерал-майор **Виктор ВЕГЕРА** освобожден от должности первого заместителя председателя Комитета государственной безопасности Беларуси по контрразведывательной деятельности и уволен с военной службы в запас по возрасту с правом ношения военной формы одежды и знаков различия.

Виктор Вегера стал одним из руководителей КГБ в 2005 году. Таким образом, продержаться в должности ему удалось достаточно долго.



# Вясна ідзе?

У чацвер на поўдні краіны будзе ўжо 9 градусаў вышэй за нуль. Але вясна ідзе нясмела.

У бліжэйшыя суткі, 2 красавіка, цыклон перамесціцца на Валагодскую вобласць Расіі, і наша краіна будзе знаходзіцца ў яго тылавой частцы. Чакаецца воблачнае надвор'е. На большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя ападкі, у асноўным мокры снег. Ноччу і раніцай месцамі на дарогах галалёдзіца, у асобных раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей туман. Вецер паўднёва-заходні, заходні ўмераны. Тэмпература паветра мінімальная ўначы -5... +1°С, максімальная днём +1 ...+7°С.

У сераду, 3 красавіка, уначы надвор'е ў Беларусі будзе ў асноўным вызначаць поле павышанага ціску, днём па поўдні краіны адаб'ецца ўплыў цыклону з цэнтрам над Балканскім паўвостравам. Ноччу ў асобных раёнах пройдзе невялікі снег, днём па поўдні ападкі (мокры снег, дождж), слабы галалёд. На асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы 0...-6°С, пры праясненнях -7...-12°С, днём +1...+6°С, па поўдні да +8°С.

У чацвер, 4 красавіка, ужо ўся тэрыторыя Беларусі трапіць пад уплыў паўднёвага цыклону, які змяшчаецца з Балканскага паўвострава. І на большай частцы тэрыторыі чакаюцца ападкі (мокры снег, дождж). Днём месцамі моцныя ападкі. У асобных раёнах наліпанне мокрага снегу, туман, галалёд, ноччу і раніцай на дарогах галалёдзіца. Днём месцамі моцны парывісты вецер. Тэмпература паветра ўначы 0...-5°С, днём 0..+6°С, па поўдні ноччу +1...+3°С, днём +7...+9°С.

МАНІТОРЫНГ

# Беларусы не надта давяраюць апазіцыйным партыям, прэзідэнту і нават адзін аднаму

## Што беларусы думаюць пра эканамічную сітуацыю

Даследчыкі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Літве) па выніках нацыянальнага апытання, праведзенага ў сакавіку 2013 года, прыйшлі да высновы, што большасць беларусаў лічаць: эканоміка краіны ў крызісе. І толькі менш за чвэрць апытаных з гэтым не пагаджаюцца.

Навукоўцы адзначаюць, што ў першым квартале гэтага года праявіў сябе негатыўны трэнд: суадносіны тых, чыё матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы палепшылася, да тых, у каго яно пагоршылася, зменшыліся (з 17,4% супраць 26,7% у снежні да 13,3% супраць 28,7% у сакавіку).

Параўноўваючы свой цяперашні ўзровень дабрабыту з тым, што быў у канцы 2010 года, 36,7% апытаных адзначылі, што сталі жыць "горш, чым тады", 48,4% — "гэтак жа, як тады", і толькі 12,2 % — "лепш, чым тады".

Нягледзячы на тое, што па афіцыйных даных сярэдні заробак напрыканцы года ў доларавым эквіваленце перавысіў 500 долараў, рэальныя даходы насельніцтва ўпалі, адзначылі ў НІСЭПД. Так, калі ў верасні сярэдні памер даходу (уключаючы зарплаты, пенсіі, дапамогі і іншыя заробкі), які прыходзіўся на аднаго члена сям'і, складаў 260 долараў, а ў снежні — 275, то сёння — толькі 250 долараў.

## Рубель ці долар?

Наконт магчымай новай дэвальвацыі рубля ў бліжэйшыя месяцы 32,1% апытаных прадказалі, што "гэта рэальная пагроза", 42,7% — "гэта магчыма, але малаверагодна" і толькі 19,4% — "гэтага не адбудзецца".

Так што давер да рубля засведчылі толькі 19,7%, а да долара — 53,6% (у снежні 2010 года лічбы суадносіліся як 30,3% супраць 47,4%).

Што да ўмоў жыцця, то, нягледзячы на афіцыйную статыстыку, якая сведчыць, што ўзровень беспрацоўя ў нас ніжэй за 1%, на пытанне "Ці даводзілася вам быць беспрацоўным?" 7,2% адказалі "так, я быў зарэгістраваны ў якасці беспрацоўнага", яшчэ 29,2% — "так, але ў службе занятасці я не быў зарэгістраваны".

## Дзяржаўны завод ці прыватнае прадпрыемства?

Навукоўцы лічаць, што, магчыма, па гэтай прычыне колькасць беларусаў, якія жадаюць працаваць на прыватных, а не на дзяржаўных прадпрыемствах, паступова ўзрастае. Калі год таму гэтыя лічбы суадносіліся як 36,2% да 43%, то сёння — 41% да 40,5%.

Больш задаволеныя, чым не задаволеныя цяперашнімі ўмовамі жыцця ў Беларусі 41%, а цалкам не задаволеныя — 57,3%.

Колькасць тых, хто лічыць, што "ў цэлым становішча спраў у нашай краіне развіваецца ў няправільным кірунку", у параўнанні з тымі, хто даў супрацьлеглы адказ, павялічылася: у снежні было 46,1% супраць 33,5%, а сёння — 51,4% супраць 34,5%

Нават той асцярожны аптымізм, які назіраўся ў канцы мінулага года, зніжаецца. Калі ў снежні 23,3% рэспандэнтаў лічылі, што сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады палепшыцца, а 29,7% — што пагоршыцца, то сёння гэта суадносіцца як 15,3% супраць 27,3%.

## Ці рэальна мадэрнізацыя?

Што да мадэрнізацыі прадпрыемстваў, то трэць апытаных думаюць, што грошы будуць выдаткаваны неэфектыўна, а 28,1% — што іх наогул раскрадуць. 35,4% вераць, што ў бліжэйшыя 10 гадоў у Беларусі магчымы тэхналагічны прарыў, мадэрнізацыя эканомікі, прарыў на аснове найноўшых тэхналогій, а больш за 40% з гэтым не згодныя.

Надзеі на эканамічнае развіццё краіны большасць звязвае з прыцягненнем замежнага капіталу (52,8%) і беларускімі прадпрымальнікамі (34,6%), а не з прэзідэнтам (31,6%), урадам (27%) або кіраўнікамі дзяржпрадпрыемстваў (22,9 %).

## Каму давяраюць беларусы?

Цікава, што пры гэтым рэйтынгі апазіцыйных структур за апошнія тры месяцы знізіліся. Толькі 13,1% выказалі давер палітычным партыям, у той час як 60,9% адказалі, што ім не давяраюць. Да прыкладу, рэйтынг Уладзіміра Някляева вырас да 5,1% (у снежні ён склаў 4,6%), Андрэя Саннікава знізіўся да 2,8% (у снежні — 4,8%). Электаральны рэйтынг Аляксандра Мілінкевіча ў сакавіку склаў 2,8%. Пры гэтым у апазіцыі да цяперашняй улады лічаць сябе 16,9% апытаных (у снежні — 21,3%). Сярод 1513 чалавек не гатовыя асабіста больш актыўна ўдзельнічаць у палітыцы 75,9%, тым часам гатовыя — 21,2%. Даследчыкі ў сваіх каментарыях тлумачаць, што "нізкі ўзровень палітычнай мабілізацыі ці нават гатоўнасці да яе яшчэ не галоўная перашкода да перамен, за якія выказваюцца мільёны людзей". "Значна больш сур'ёзная праблема — надзвычай высокі ўзровень недаверу людзей адзін да аднаго, а не толькі да шматлікіх сацыяльных інстытутаў. Так, на пытанне: "Ці можна давяраць большасці людзей або ў адносінах з людзьмі трэба быць вельмі асцярожным?" 70% адказалі, што трэба быць вельмі асцярожным у адносінах з людзьмі, і толькі 23,1% — што большасці людзей можна давяраць.

## Людзі хочуць перамен

Пры гэтым даследчыкі лічаць, што некаторыя напрамкі для магчымай працы прыхільнікаў перамен праглядаюцца. Так, на пытанне "Ці пагодзіцеся вы прыняць удзел у якасці кандыдата на мясцовых выбарах у 2014 годзе?" каля 11% рэспандэнтаў адказалі станоўча. Ва ўмовах кантролю дзяржавы над СМІ сёння 52,5% беларусаў рэгулярна (штодня або некалькі раз у тыдзень) карыстаюцца інтэрнэтам, у тым ліку і сацыяльнымі сеткамі (у снежні 2010 года было менш за 40%).

## Пры гэтым баяцца грамадзянскай вайны

Сярод апытаных 44% лічаць, што ў Беларусі парушаюцца правы чалавека. Амаль чвэрць рэспандэнтаў адказалі, што сёння больш за ўсё асцерагаюцца свавольства ўлад, а каля 15% — грамадзянскай вайны (для параўнання: замежнай агрэсіі асцерагаюцца толькі 11,5%). Трэба адзначыць, што ў чэрвені 2010 года было адпаведна 17,3% і 9,8%. Такім чынам, простыя грамадзяне адчуваюць раскол грамадства ў дачыненні да ўлад.

Сацыёлагі прыйшлі да высновы, што няўстойлівае эканамічнае становішча і скептычнае стаўленне да ўлад падвышаюць гатоўнасць беларусаў да перамен: 74,8% лічаць, што Беларусь мае патрэбу ў пераменах. Супрацьлеглага меркавання прытрымліваюцца толькі 16,2% (у маі 2011 года было 61,1% супраць 32,5%).

## Рэйтынг А.Лукашэнкі «завіс»

Даследчыкі не думаюць, што гэтыя настроі наўпрост пераносяцца на кіраўніка дзяржавы. "Хоць, як адзначалася ў нядаўніх даследаваннях аналітыкаў інстытута, перакладанне адказнасці на "нядбайных чыноўнікаў", якое прэзідэнт памайстэрску выкарыстоўвае шмат гадоў, ужо не дае ранейшага эфекту, рэсурс грамадскага даверу да яго яшчэ далёка не вычарпаны. Калі ў снежні яму давяралі 39,1%, а не давяралі 49,1% апытаных, то сёння гэтыя паказчыкі зраўняліся: 43,4% супраць 43,2%", — адзначаюць яны.

Электаральны рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі ў параўнанні са снежнем павялічыўся з 31,5% да 33,4% (у сакавіку мінулага года — 34,5%).

36,5% рэспандэнтаў лічаць, што Лукашэнка павінен удзельнічаць у выбарах 2015 года. 26,1% лічаць, што ён не павінен у іх удзельнічаць. 21,4% лічаць, што ён павінен як мага хутчэй сысці і не перашкаджаць абранню новага прэзідэнта, а яшчэ 6,1% лічаць, што ён павінен як мага хутчэй сысці і прызначыць пераемніка.

Што ж, гэта меркаванні 1513 чалавек, якіх апыталі ў сакавіку. Даследчыкі сцвярджаюць, што памылка рэпрэзентатыўнасці не перавышае 3%.

**Дар'я СОЛТАН.**

ПАЛІТКУХНЯ

## *Растлумачце, Міхаіл Уладзіміравіч...*

Палітсавет Аб'яднанай грамадзянскай партыі звярнуўся да прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча з прапановай растлумачыць сітуацыю па знешніх валютных абавязацельствах Беларусі.

Як паведамляе прэс-служба партыі, у лісце Міхаілу Мясніковічу АГП выказвае занепакоенасць рэзкім ростам дзяржаўнай пазыковай нагрузкі. *"Высокая верагоднасць таго, што ў 2013 годзе як знешні дзяржаўны, так і сукупны доўг перавысяць парог эканамічнай бяспекі. Выдаткі па абслугоўванні дзяржаўнага доўгу рэзка зніжаюць магчымасці па мадэрнізацыі эканомікі, адукацыі і аховы здароўя",* — адзначаецца ў лісце.

Сітуацыю з фінансамі, лічаць у АГП, пагаршае "створаная рукамі органаў дзяржкіравання піраміда рублёвых укладаў". *"Ва ўмовах мяккай грашовай палітыкі надзвычай высокія стаўкі рублёвых дэпазітаў істотна абмяжоўваюць доступ камерцыйных арганізацый да крэдытных рэсурсаў",* — гаворыцца ў лісце.

У гэтай сітуацыі, як упэўнены ў АГП, вельмі важна не дапусціць чарговага ўдару па ўкладах насельніцтва, захаваць зберажэнні простых беларусаў. *"Ацэнка знешніх абавязацельстваў краіны для гэтага надзвычай важная. Павялічваюцца рызыкі правядзення спекулятыўных нападаў на беларускі рубель. Існуе небяспека правядзення інсайдэрскіх здзелак, калі асобныя людзі і структуры, выкарыстоўваючы закрытую інфармацыю, паспрабуюць выйсці з рублёвых дэпазітаў. Гэта можа прывесці да вельмі негатыўных наступстваў для банкаўскай сістэмы краіны ў цэлым",* — упэўнены аўтары звароту.

У сувязі з гэтым асаблівую занепакоенасць у АГП выклікае стан знешніх разлікаў за пастаўленую з Венесуэлы нафту. *"За перыяд 2010—2012 гады ў Беларусь з Венесуэлы паступіла сырой нафты амаль на 2,6 мільярда долараў. Па неправеранай інфармацыі, якая распаўсюджваецца ў фінансавых арганізацыях і органах дзяржкіравання, у Беларусі ўтварыўся доўг у адносінах да Венесуэлы ў аб'ёме каля 2,8 мільярда долараў",* — падкрэсліваецца ў лісце.

Палітсавет АГП звярнуўся да Міхаіла Мясніковіча з прапановай растлумачыць сітуацыю па знешніх валютных абавязацельствах Рэспублікі Беларусь у 2013 годзе ў цэлым і па адносінах з Венесуэлай у прыватнасці. *"Для ліквідацыі спекулятыўных чутак да грамадскасці важна данесці інфармацыю аб стане разлікаў за венесуэльскую нафту. Калі ж Беларусь атрымала ад Венесуэлы таварны крэдыт, то на якіх умовах, калі і ў якой форме мяркуецца яго пагашэнне?"* — лічаць у партыі.

АГП нагадвае, што *"толькі палітыка поўнай празрыстасці забяспечвае давер да органаў дзяржкіравання ў цэлым і да беларускага рубля і банкаўскай сістэме ў прыватнасці".*

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

# Дух «Амкодора» или душок?

*Новый владелец контрольного пакета акций ОАО "Амкодор — управляющая компания" новополоцкий бизнесмен **Николай ВОРОБЕЙ** ушел с последнего собрания акционеров с подарком. Один из бывших руководителей известного в Беларуси и за ее пределами машиностроительного холдинга подарил Воробью книгу о людях, создававших бренд "Амкодора". Подарил с намеком, что человеку, который заботится о развитии и стабильности своего бизнеса, важно помнить не только о больших цифрах на собственных банковских счетах, но и о людях, которые составляют основу этого бизнеса.*

*"Автор" намека **Геннадий ЗИНОВЧИК**, бывший вице-президент концерна "Амкодор" по внешнеэкономическим связям, рассказал "Народной Воле" о том, как акционеры познакомились с "новым хозяином" и что сегодня происходит в холдинге.*



## *Шакутин. Игнор*

**— Геннадий Анатольевич, какое впечатление у вас оставило годовое собрание акционеров?**

— Полное разочарование. Во-первых, в зале присутствовало всего лишь 30 человек, хотя нас, миноритарных акционеров, около трех тысяч. Мне кажется, это показатель отношения акционеров к руководству холдинга и тому, что в нем происходит. Примечательно, что человек, который должен был перед нами отчитываться, председатель совета директоров Александр Шакутин, на собрании отсутствовал. Причем отсутствовал второй год подряд. Я проработал 36 лет на "Амкодоре" и не мог даже представить, что такое вообще возможно — чтобы руководитель проигнорировал мероприятие, которое проходит раз в год, чтобы проявил такое неуважение к людям.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ДАСЛОЎНА

## *Андрус КУБІЛЮС, экс-прэм'ер Літвы, лідар кансерватараў:*

*— Мы ўсе ведаем, наколькі кепская сітуацыя ў Беларусі, і весці дыскусіі на тэмы парушэння правоў чалавека, палітычных зняволеных і гэтак далей няма сэнсу. Гэтыя рэчы для ўсіх ясныя, і погляд на іх адзіны. Беларусь — асобны выпадак, паколькі да ўсіх праблем краін "Усходняга партнёрства" там ёсць яшчэ і Лукашэнка.*



**(Падчас выступлення на канферэнцыі "Чаго чакаць Беларусі ад старшынства Літвы ў Еўрапейскім Саюзе", якая адбылася ў Вільнюсе.)**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## *У ААН накіравана скарга былога мэра Гомеля*

*Былы старшыня Гомельскага гарвыканкама, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Святлана Гальдадэ звярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН.*

Яна скардзіцца на забарону ёй сумесна з мясцовымі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным і Леанідам Судаленкам правесці ў абласным цэнтры 4 жніўня мінулага года пікет у падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

*"Пікет мы мелі намер правесці ў дзень затрымання Алеся. Масавае мерапрыемства ў нас было запланавана з мэтай звярнуць увагу грамадскасці на праблему палітычных зняволеных, і не толькі Алеся Бяляцкага, якога, як мы лічым, асудзілі незаконна",* — гаворыць Святлана Гальдадэ. Яна адзначыла, што акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага планавалася як агульнарэспубліканская, якая праводзілася па ініцыятыве праваабаронцаў. Заяўкі на пікеты былі пададзены ва ўсіх абласных цэнтрах і іншых гарадах краіны, і паўсюль мірныя сходы грамадзян былі забаронены.

Раённы суд, дзе абскарджвалася забарона, стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэнне, не задаволіў скаргу. Такім чынам, унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю — Камітэт па правах чалавека ААН.

Святлана Гальдадэ просіць Камітэт устанавіць факт парушэння яе і праваабаронцаў правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці закон "Аб масавых мерапрыемствах", а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі.

НУ І НУ!

## *Накормім Расію танным мясам?*

*Беларусь пастаўляе ў Расію свініну па дэмпінгавых цэнах — 76 расійскіх рублёў, або 21,2 тысячы беларускіх за кілаграм.*

Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Леанід МАРЫНІЧ** падчас анлайн-канферэнцыі, арганізаванай інфармацыйным агенцтвам БЕЛТА.

*"Калі раней мы прадавалі свініну па 120 расійскіх рублёў, то на апошніх таргах, якія мы правялі, цана ўстаноўлена на ўзроўні 76 рублёў за адзін кілаграм у паўтушы. Гэта істотная розніца. У сувязі з гэтым нам даводзіцца прымаць у сябе нейкія меры, адшукваць рэзервы для таго, каб пастаўляць гэтую прадукцыю ў Расію".*

У той жа час, па даных Белстата, сярэдні кошт 1 кілаграма свініны (акрамя бескасцёвага мяса) на ўнутраным рынку ў лютым дасягнуў 44 тысяч беларускіх рублёў. Падобна на тое, што "ўнутраныя рэзервы" адшукваюцца проста: мы плацім даражэй, каб расіяне маглі мець танную свінінку.

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

# Дух «Амкодора» или душок?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Прикрылись тем, что Шакутин находится в командировке по государственным делам. Позвольте, "Амкодор" — частная компания. Шакутин — руководитель частной компании. И раз в год он должен перед нами, акционерами, отчитаться о том, что сделал. Если ты занимаешься государственными делами — переходи на государственную службу, иди на государственное предприятие и хоть день и ночь служи государству. Так ведь нет, не уходит! Но вы же понимаете: система управления выстроена таким образом, что если нет первого лица, то просто не к кому обратиться, все превращается в пустые разговоры, так как без него никто ничего не решает. А первого лица нет два года подряд. Это позор, по-моему. Просто плевок в душу каждого акционера.

**— Странно, что акционеры "Амкодора" проигнорировали годовое собрание. Насколько известно, раньше вы все были очень активны. Что произошло?**

— Видимо, люди просто отчаялись, не верят, что могут на что-либо повлиять. Дело в том, что в конце прошлого — начале этого года было проведено два внеочередных собрания акционеров, на которых решались очень важные для "Амкодора" вопросы. Однако они проходили фактически тайно.

Первое такое собрание состоялось 15 ноября, и на нем было принято решение о переоценке стоимости акций? Раньше акция стоила 40 тысяч рублей, сейчас — 1 миллион 174 тысячи белорусских рублей. В последние годы мы каждое собрание поднимали этот вопрос — почему не переоцениваются акции? Но нам никто ничего внятного не мог ответить. И тут вдруг раз — и переоценили, увеличив стоимость в 26 раз.

Нас об этом собрании никто не уведомил. Я потом разбирался, почему так произошло. Объяснили, что объявление было опубликовано в газете "Звязда". Я как человек дотошный даже поискал. Действительно, объявление было. 2 ноября. Собрание провели 15-го. Хотя по уставу о том, что созывается собрание, необходимо оповестить за 30 дней до его проведения. Но все закрывают глаза на такие нарушения.

Январское собрание тоже прошло по той же схеме. Между тем 10 января безо всякого тендера, без какого-то конкурса, обсуждения, представления было принято решение, приведшее в итоге к смене владельца контрольного пакета акций. Все было сделано втихаря, мы, акционеры, уже потом в газетах прочитали, что в результате дополнительной эмиссии акций на "Амкодоре" произошла смена собственника. И что новый хозяин — малоизвестная компания "Интерсервис" и некто Николай Воробей.

Но, может, и не нужна была бы эта дополнительная эмиссия. Может, мы, миноритарные акционеры, продали бы свои акции по новой цене. (А я вам скажу, что многие бы продали, потому что руководству ОАО не доверяют.) Но нас никто ни о чем не спрашивал, ни о чем не предупреждал, даже нового владельца контрольного пакета никто не представил. Хотя я вспоминаю, что когда 14 лет назад Александр Шакутин пришел на "Амкодор", нам его официально предъявили, объяснив, кто это и что это. А сейчас с новым хозяином даже знакомить не хотели.

## *Новый хозяин*

**— Но все-таки на собрании акционеров Николай Воробей был?**

— Мы его заставили рассекретиться уже в самом конце, когда собрание почти закончилось и шел подсчет голосов. Мы попросили, чтобы новый собственник все-таки ответил на наши вопросы. И тогда выяснилось, что Николай Воробей находится в зале.

**— Расскажите немного о своем впечатлении от этого человека. А то уже ходили слухи, что никакого олигарха Воробья не существует, что это человек-миф, которым прикрываются другие персонажи, не желающие светить свои фамилии. Всплыл из ниоткуда, ничем не прославился — и вдруг такой масштаб бизнеса. При этом никто из журналистов никогда бизнесмена Воробья не видел, даже на официозных мероприятиях он никогда не был замечен…**

— Ну, что сказать? Лет пятидесяти, круглое лицо, хорошие живые глаза... Он сидел не в президиуме, не в первых рядах, а в глубине зала. Без охраны. Рядом с ним были какая-то симпатичная дама (по виду помощник или секретарь) и мужчина, что-то вроде коммерческого директора. Вот такой Воробей. Сидел тихо, как мышь под веником, пока мы не стали к нему обращаться.

**— Вы задавали ему какие-то конкретные вопросы?**

— Да, один из акционеров напрямую спросил: "Будете ли вы выкупать акции у физических лиц?" Но ответ был приблизительно таким: "Я не знаю, мы подумаем". Причем Воробей отвечал сидя, даже не встал.

Дальнейший диалог о существующих правилах покупки-продажи акций показал, что господин Воробей просто не ориентируется в этой теме, абсолютно не знает ни деталей, ни нюансов.

Честно скажу, у меня появилось подозрение, что Воробей — это просто какая-то подставная фигура. И тогда я встал и попросил его ответить на три вопроса. Во-первых, я попросил его назвать размер уставного фонда фирмы "Интерсервис", которую он возглавляет и которая теперь владеет контрольным пакетом "Амкодора". Во-вторых, озвучить, кто учредители этой компании. И третий мой вопрос, обращенный к Николаю Воробью, звучал так: "Вы занимались нефтехимией, намеревались строить нефтеперерабатывающий завод, потом отказались от этого проекта... Почему вдруг, никогда не занимаясь машиностроением, вы решили купить "Амкодор"? Объясните мотив этой покупки".

Ответы были просто смешные. Размер уставного фонда — "большой". Об учредителях "Интерсервиса" он даже не стал говорить. А мотив?.. "Мы знали, что "Амкодору" очень тяжело сейчас, поэтому купили акции и помогли нашему государству".

При чем тут государство, если ты купил акции частной компании?.. Он вообще знает, что купил?..

В общем, после такого уровня ответов лично я поверю, что Воробей не реальный руководитель, что за ним стоит кто-то другой.

**— Но хоть что-то он говорил о том, как представляет себе стратегию развития "Амкодора"? О своих планах, о том, каким видит предприятие, став самым крупным собственником?**

— Ни-че-го! Абсолютно ничего! Хотя вложил в покупку около 77 миллионов долларов.

## *Беспричинная щедрость*

**— Как бы то ни было, отчетный доклад был зачитан. Какими успехами хвастались руководители "Амкодора"?**

— Некоторые цифры я законспектировал. Правда, о каких-то особых успехах даже не говорилось.

2012 год был назван фактически провальным. Объем производства снизился на 7 процентов. Холдинг весь в долгах и кредитах. Однако, как следовало из доклада, развитие идет — где-то открывают сервисные пункты и прочее. Мне показалось, что идей много, но они абсолютно не отработаны. То есть за всё хватаются, кредиты берут, не разбираясь — надо или не надо, в результате получается только хуже.

Экспорт — 53 процента. Вроде бы хороший показатель. Но почти все это — поставки в Россию. А ведь Россия вступила в ВТО, значит, туда сейчас придет техника мировых компаний. Она даже старая, секонд-хэнд, не уступает нашей. То есть надо осознавать, что вот-вот нам придется только вспоминать о прежних объемах поставок на российский рынок, надо искать новые рынки. А ничего этого не сделано.

Как следовало из доклада, фактически на конец года холдинг оказался почти банкротом, не смог обслуживать свои долги, банки начали начислять пеню на неоплаченные кредиты, то есть удавка затягивается еще туже.

Плюс ко всему два с половиной месяца предприятие работало, но ничего не продавало. Продукция, выпущенная за 2,5 месяца (без малого — квартал), просто ушла на склад.

**— Представители государства на собрании были? Они все это слышали?**

— Конечно. И, кстати, выступая, я задал вопрос первому заместителю министра промышленности Ивану Ивановичу Демидовичу, который входит в совет директоров "Амкодора" и представляет интересы государства. Я спросил у него: почему радикальные решения были приняты по возвращению под контроль государства "Коммунарки" и "Спартака", но у тех, кто ведет к банкротству "Амкодор", государство акции не забирает? Если уж к кондитерским предприятиям, которые оставались вполне платежеспособными, были приняты такие серьезные меры, то почему все спокойно смотрят на то, что происходит на "Амкодоре"? Я понимаю так: государство должно сказать: "Ребята, вы руководили 14 лет, но вогнали компанию в долги. Поэтому теперь не обижайтесь".

Государство ведь действительно помогало, чем только можно. На продукцию "Амкодора" первое время был госзаказ — силой заставляли ее покупать, чтобы обеспечить сбыт. Представителям "Амкодора" давали возможность ездить с высшими должностными лицами страны в самые разные визиты и продвигать свой товар. Государство по дешевке продало "Амкодору" бывший Минский приборостроительный завод. Всего за 35 тысяч евро продали комплекс, который оценивается в десятки миллионов долларов!..

**— Такого не может быть! Так просто не бывает! В Минске ведь даже на однокомнатные квартиры нет таких цен. Вы ничего не путаете?**

— Нет, я не путаю. Был соответствующий указ президента.

## ОТ РЕДАКЦИИ

*Все-таки не поверив в то, что "Белвар", или бывший Минский приборостроительный завод, был продан частной компании "Амкодор" (у государства в ней до недавнего времени было только 15 процентов акций, а сейчас и того меньше) за такую смешную сумму, мы решили найти указ, о котором идет речь. Это оказался указ №274 от 27.06.2011 года. В нем действительно сказано: "Рекомендовать Минскому горисполкому в установленном порядке осуществить продажу ОАО "Амкодор" находящихся в коммунальной собственности г.Минска 2.249.842 акций открытого акционерного общества "Минский приборостроительный завод" по номинальной стоимости 140 рублей на общую сумму 314 миллионов 977 тысяч 880 рублей..."*

*Известно и время, когда сделка была завершена, акции выкуплены. Это октябрь 2011 года. Согласно данным Национального банка, в октябре 2011-го средний официальный курс составлял 8960,460 рублей за евро. Пересчитываем. Действительно: 314 миллионов 977 тысяч 880 рублей — это 35 тысяч 150 евро. Невероятно! Потому что, напомним, речь идет о комплексе в самом центре Минска, прямо на проспекте Независимости, возле ЦУМа. Это так называемая "золотая миля" Минска, где рыночные цены на недвижимость и на землю запредельные.*

— Ну так вот, государство всячески помогало "Амкодору". И одно время он даже входил в число крупнейших налогоплательщиков. Но сейчас такого близко не наблюдается. На собрании было озвучено, что за прошлый год в виде налогов было уплачено 8 миллиардов рублей. То есть меньше одного миллиона долларов! Для такой компании — это просто слезы.

Поэтому я и предложил Демидовичу как представителю государства в Совете директоров инициировать меры по возвращению контроля над предприятием. Для начала надо прислать независимый аудит, который проведет анализ экспорта, продаж, закупок... Лично мне как акционеру, например, интересно, действительно ли ЗАО "Проммединвест" (или как сейчас его называют "ПМИ-групп"), в которой до прихода на "Амкодор" Александр Шакутин был генеральным директором, а сейчас остается заместителем генерального директора по развитию, является таким уж выгодным партнером по закупкам. Пусть, наконец, аудит или Госконтроль разберутся, действительно ли так нужен "Амкодору" этот вечный посредник? Да и во многих других вопросах надо разобраться хотя бы потому, что предприятие уже не может оплачивать свои долги...

Я считаю, что, видя такой итог работы собственников, государство имеет полное моральное право инициировать дополнительную эмиссию акций, чтобы получить контрольный пакет. Потому что "Амкодору" были созданы все условия, всяческие преференции, а результат — совсем печальный.

Кстати, мы, миноритарные акционеры, продали бы свои акции государству. Ведь никакого доверия нынешним управленцам нет.

**— Сейчас у государства какой пакет акций?**

— Не могу сказать совсем уж точные цифры, но расклад приблизительно такой. У государства где-то 7—7,5 процента. У Николая Воробья (вернее у фирмы, которую он возглавляет) — 53,6%. Остальные акции у Шакутина, миноритарных акционеров и у непальцев.

И странная история: чем больше государство теряет на "Амкодоре", тем больше хвалят Шакутина, тем больше он всюду заседает и везде участвует. Такой разбор полетов устроили на вполне успешных кондитерских предприятиях, так там резанули, а тут банкрота не тронули. Чудеса просто! Взять хотя бы последнее собрание, на котором избирали новый совет директоров. Собственник контрольного пакета акций сменился, а Шакутин все равно остался у руля. Он и не присутствовал на собрании, у него не самый крупный пакет, а его заочно избрали председателем Совета директоров.

Вы только представьте ситуацию: хозяин отказался управлять предприятием! Воробей купил "Амкодор", но почему-то решил им не заниматься, оставив руководство прежнему хозяину. Это как называется?

**— Либо сговор, либо абсурд, либо анекдот.**

— Вот в таких анекдотах мы и живем. И все делают вид, что это нормально.

## *Герой «Амкодора» Алена Ланская*

**— Вспоминается и еще одна странная история. После скандала с подтасованной победой певицы Алены Ланской в отборе на "Евровидение-2012" стало известно, что именно Александр Шакутин и, соответственно, связанный с его именем "Амкодор" имели непосредственное отношение к продвижению этой "звезды". "Евровидение-2013" для все той же Ланской спонсирует уже новый хозяин "Амкодора" Николай Воробей. Такая преемственность, конечно, наводит на размышления. Но все-таки, прозвучала ли на годовом собрании акционеров информация о том, сколько денег "Амкодор" в прошлом году вложил в Ланскую и почему?**

— Естественно, никто не посчитал нужным объясниться по этому поводу. Хотя, много лет проработав в этой сфере, зная аналогичные мировые компании, их политику, их заботу о своем имидже, могу сказать, что подобная благотворительность — дурной тон. Дурной тон и дискредитация.

Хотите скажу, почему лично я полез на трибуну? Просто прочитал интервью одного нашего сенатора, в котором он говорит, что, мол, в Совете Республики работают суперпрофессионалы. И приводит в пример Шакутина как человека, который с нуля фирму вывел в лидеры. Это меня возмутило до глубины души. Может, Ланскую Шакутин и вывел с нуля, но только не "Амкодор".

Завод "Ударник", а потом созданный на его базе "Амкодор" всегда были сильны. Хотя бывали очень тяжелые времена. Но мы создали бренд, нашу продукцию знали, она поставлялась в 25 стран. И все сотрудники являлись акционерами, людьми, причастными к каждому, даже маленькому, успеху и поражению. Это было настоящее сообщество единомышленников. Однако с 1998 года, когда пришел Шакутин, все пошло по-иному. Он ведь хирург и как хирург провел умелую операцию по обрезанию корней "Амкодора". С его приходом акционерам, тем, кто создавал это предприятие, этот бренд, перестали платить дивиденды, прикрывшись модернизацией. Потом всем урезали пенсии. У нас ведь были персональные амкодоровские пенсии, доплаты к государственным, размер которых зависел от стажа человека, его активности, его вклада в общее дело.

Потом людей вынудили продавать акции "Амкодора" за копейки, по явно заниженной цене (я уже рассказывал, что до последнего стоимость акций не пересматривалась)...

Опытной рукой хирурга Шакутин обрезал то, на чем, собственно, держится предприятие, что составляет его дух. Он думал, что делает благое дело, избавляясь от всего, что было до него. Но в реальности такой политикой продемонстрировал коллективу, что не надо гореть на работе, не надо стараться, упираться, творить, так как это все равно не будет оценено. И я просто поражаюсь, как такой человек может входить в совет при президенте по предпринимательству!

В своем выступлении перед акционерами я привел простой пример отношения к людям. И вам его приведу.

У нас на заводе "Ударник" был главный конструктор Николай Николаевич Юдчиц. Это профессионал, умнейший человек, культурнейший, знающий. Он — внедренец. Конструктор ведь может нарисовать что угодно, но самое главное — внедрить. Подбор металла, того, сего, чего-то нет, что-то надо заменить, где-то найти... Так вот именно Юдчиц был в этом смысле потрясающим талантом, просто незаменимым. Этакий наш Калашников — человек, без которого "Амкодор" как бренд просто не состоялся бы. Но случилось так, что Николай Николаевич заболел и в связи со сложным лечением, операциями вынужден был уйти. И все! О нем сразу же забыли, его просто вычеркнули. В 2010 году Юдчицу исполнилось 75 лет. Вы думаете, хоть кто-то его поздравил? Нет. Просто забыли.

И я этим новым хозяевам привел пример. У Ижевска есть Калашников... Так это и музей, и персональная машина, и персональная пенсия. А у нас — полное забытье...

Да хотя бы собрали этих стариков-ветеранов, хотя бы поговорили, хотя бы встретились, как это делалось раньше. А Юдчица так вообще на руках должны носить. Но они даже пропуск ему не выписали. Человек, чьими руками, мозгами, нервами все это создавалось, даже не может прийти на завод. Вот так у нас ценят людей. Выделяем огромные суммы на всякое-разное — на "Славянский базар", на "Евровидение", на раскрутку певиц — и получается, что не Юдчиц герой "Амкодора", а какая-то Ланская.

Так не должно быть! Так ничего нельзя создать, можно только разрушить! Это какой-то абсурд!

**— И все-таки будем надеяться, что, хотя бы глядя в цифры годового бухгалтерского баланса, руководители и владельцы "Амкодора" поймут, что их методы управления оказались ущербными. Вы, Геннадий Анатольевич, человек с большим опытом, "Амкодору" отдали большой кусок жизни. Что бы вы посоветовали руководству холдинга для выправления ситуации?**

— Хотелось пожелать новому составу Совета директоров трезво оценивать финансовые возможности "Амкодора", не пытаться объять необъятное, а работать и жить по средствам. Скорее соскочить с кредитной иглы и жить на заработанные деньги. Восстановить баланс в процессе "люди—производство—экономика", побольше инвестировать в кадры, но и не забывать пенсионеров, которые в основном создали интеллектуальный потенциал сегодняшнего "Амкодора". Также восстановить амкодоровский дух, созданный в начале 1990-х годов, когда каждый сотрудник с гордостью говорил: "Я работаю на "Амкодоре"! Уверен, что белорусы могут работать не хуже немцев, поляков и японцев.

**Беседовала Светлана КАЛИНКИНА.**

**P.S.** Ситуация на ООО "Амкодор", как в зеркале, отражает ситуацию в нашей стране.

Не учитывая финансовых возможностей, мы затеяли сплошную модернизацию, премся в Антарктиду, запускаем спутники, строим ледовые дворцы, проводим "Дожинки", содержим хоккей и т.д., все больше залазим в долги, так как не надеемся на себя.

Хорошо, что ООО "Амкодор" выручил белорусский нефтемагнат Н.Н.Воробей, который купил контрольный пакет эмиссионных акций.

А кто выручит нашу страну в период наступающего кризиса? Опять Россия, но какой ценой, мы не знаем.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *За што арыштавалі Уладзіміра Кротава?*

Затрыманаму 19 сакавіка начальніку галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі падпалкоўніку міліцыі Уладзіміру Кротаву прад'яўлены абвінавачванні.

Як паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Павел Траулька, Кротаў абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.2 арт.426 КК (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў). Менавіта па гэтым складзе Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да высокага міліцэйскага начальніка.

Мера стрымання ў дачыненні да Кротова застаецца ранейшай — утрыманне пад вартай.

РЭГІЁН

## *Шклоўскі райсавет занепакоены парушэннем дэпутатамі законаў*

*На сесіі Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў, якая адбылася днямі, было разгледжана пытанне "Аб захаванні законнасці і норм дэпутацкай этыкі".*

Як паведамляе шклоўская раённая газета "Ударны фронт", падставай для разгляду гэтага пытання стала тое, што за апошні час у большасці раёнаў Магілёўскай вобласці і горадзе Магілёве пачасціліся выпадкі, калі дэпутаты розных узроўняў парушаюць закон і злоўжываюць службовым становішчам.

З інфармацыяй па пытанні "Аб захаванні законнасці і норм дэпутацкай этыкі" на сесіі выступіў старшыня пастаяннай камісіі раённага Савета дэпутатаў па пытаннях законнасці, правапарадку, праў грамадзян і барацьбе са злачыннасцю **Аляксей Чэлак**. Ён адзначыў, што за апошні час у большасці раёнаў Магілёўскай вобласці і горадзе Магілёве пачасціліся выпадкі, калі дэпутаты розных узроўняў парушаюць закон, злоўжываюць службовым становішчам, дапускаюць крадзеж дзяржаўнай маёмасці, здзяйсняюць іншыя правапарушэнні і трапляюць пад артыкулы Крымінальнага кодэкса і адміністрацыйныя пакаранні. Таксама народныя выбраннікі нярэдка парушаюць Правілы дарожнага руху і кіруюць транспартам у стане алкагольнага ап'янення, тым самым паказваючы дрэнны прыклад іншым грамадзянам.

Нагадаем, што апошнім часам Шклоўскі раён ускалыхнуў цэлы шэраг гучных злачынстваў карупцыйнай накіраванасці, дачыненне да якіх быццам бы мелі мясцовыя чыноўнікі розных рангаў, пра што раней паведамляў наш сайт. На жаль, ніякай галоснасці ў расследаванні гэтых злачынстваў на малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі не існуе, вынікі разгляду гучных крымінальных спраў не агалошваюцца.

ПРОИСШЕСТВИЕ

## *В Гродно до смерти избили отца известного краеведа*

*25 марта, в День Воли, в собственном гараже в Гродно убит отец профессора медицины, преподавателя Гродненского мединститута, известного краеведа Алеся Островского.*

У 80-летнего мужчины сломаны три ребра, нос, порвана плевра. Жестоко избитый мужчина умер в больнице.

Убийство произошло среди белого дня, когда пожилой мужчина пошел в гараж взять свеклу. Соседи по гаражам, с кем после трагической смерти отца разговаривал Алесь Островский, запуганы и не хотят разговаривать. Свидетели есть, но боятся говорить.

Следствие упорно придерживается бытовой версии трагедии. Нет признаков грабежа, так как все деньги (80.000 рублей) и имущество гаража преступники не тронули.

ФОТАФАКТ

## *Сам жывы, а хату знесла*

*Жыхар Шчучынскага раёна зладзіў выбух ва ўласным доме ў вёсцы Вялікае Мажэйкава. Сведкам здарэння стаў выпадковы прахожы, ён і патэлефанаваў у Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.*



Высветлілася, што ў доме пражывае 43-гадовы мужчына. У момант выбуху газапаветранай сумесі ён быў нецвярозы. Гаспадар атрымаў апёкі 1—2-й ступеняў (25 працэнтаў) галавы, рук, груднoй клеткі, аднак змог самастойна выйсці ў двор. Цяпер ён знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні раённай бальніцы ў цяжкім стане. Як патлумачыў пацярпелы, ён вырашыў скончыць жыццё самагубствам (атруціцца газам), але замест гэтага адбыўся выбух.

НУ І НУ!

## *У Драгічынскім раёне банда напала на вёску*

*Банда хуліганаў напала на вёску Дзераўная і драўлянымі каламі пашкодзіла два легкавікі, плот і вароты прыватнага падворка.*

Як паведамляе прэс-служба Брэсцкай абласной міліцыі, пацярпелыя вяскоўцы звярнуліся ў Драгічынскі РАУС. Неўзабаве следча-аператыўная група выявіла, што напад здзейснілі пяць жыхароў суседніх вёсак. Самаму старэйшаму з іх 23 гады, а малодшаму — 18. Зламыснікаў затрымалі, Следчы камітэт распачаў крымінальную справу.

Што стала прычынай такога вар'яцтва, пакуль не зразумела.



Народная Воля http://www.nv-online.info
2 КРАСАВІКА 2013 г.

**ДОСЛОВНО**

## *Владимир ПУТИН, президент Российской Федерации:*




**ЧУЛІ?**

## *БМЗ ліквідуюць, бо ствараецца новы холдынг*

Вытворчае аб'яднанне "Беларускі металургічны завод" будзе ліквідавана да 1 жніўня 2013 года.

Гэта вызначана ўказам прэзідэнта №132. Але палохацца не трэба. Бо ліквідацыя не азначае знікнення вядучага беларускага прадпрыемства. Дакумент прыняты ў сувязі са стварэннем холдынгу "Беларуская металургічная кампанія".

Холдынг "Беларуская металургічная кампанія" створаны ў жніўні 2012 года. Кіраўнічай кампаніяй холдынгу стала ААТ "БМЗ".

## *Недзе згубіліся больш за мільён пар рабочых рук*

У эканоміцы Рэспублікі Беларусь у студзені—лютым гэтага года было занята 4 мільёны 541 тысяча чалавек, што на 0,9% менш, чым у студзені-лютым мінулага года.

Пра гэта паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.

Паводле даных апошняга перапісу насельніцтва, у Беларусі доля працаздольнага насельніцтва складае 61,6%. Зыходзячы з колькасці насельніцтва 9461,8 тыс. чалавек (на 1 лютага 2013 года), у Беларусі каля 5,8 мільёна працаздольных грамадзян. Такім чынам, каля 1,3 мільёна працаздольных беларусаў альбо жывуць лайдакамі, альбо працуюць за мяжой.

## *Шведы зарабляюць месячны беларускі заробак за 9,5 гадзіны*

Сярэднямесячны заробак беларусаў у апошнім квартале 2012 года склаў 4 мільёны 407 тысяч рублёў, ці 398 еўра.

Сайт onliner.by высветліў, за колькі гадзін жыхары краін Еўрасаюза зарабляюць месячны беларускі заробак. Высветлілася, што найменш часу спатрэбіцца шведам — 9,5 гадзіны. На другім месцы размясціліся бельгійцы — ім давядзецца працаваць 9,9 гадзіны. Трэцяе месца занялі датчане з паказчыкам 10,1 гадзіны працы.

Жыхарам суседняй Польшчы трэба працаваць амаль тыдзень, каб зарабіць 398 еўра.

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## *Лідару Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзьку вярнулі грошы, канфіскаваныя ў яго падчасператрусу ў кватэры яшчэ ў снежні 2010 года*

*Цяганіна з вяртаннем асабістых грошай палітыка доўжылася больш за два гады.*

*— Мы ўзгаднілі з прадстаўнікамі КДБ час, я прыйшоў у бюро пропускаў, зайшоў у пакой. Туды таксама зайшлі чатыры чалавекі з фінансавага ўпраўлення. Спрабавалі здымаць мяне на відэакамеру, але я выказаў пратэст. Запоўніў паперы, што на падставе рашэння аб спыненні крымінальнай справы мне вяртаюць канфіскаваныя грошы. Мне перадалі, і я забраў усю сваю суму — больш за 10 тысяч долараў. Пажартаваў яшчэ: ці не трэба, каб былі выплачаны яшчэ і працэнты? Супрацоўнікі КДБ толькі ўсміхнуліся. Я выказаў надзею, што з гэтымі грашыма ў мяне больш праблем не будзе. На што яны сказалі, што я магу не сумнявацца ў сапраўднасці купюр,* — расказаў Анатоль Лябедзька.

Нагадаем, што па выніку падзей, якія разгортваліся ў Мінску пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў, Анатоль Лябедзька быў арыштаваны, але потым нават не прыцягваўся да суда. Палітыка вызвалілі, вось толькі канфіскаваных грошай не вярнулі. Ягоныя скаргі проста хадзілі з кабінета ў кабінет, як па замкнёным коле. Нехта, напэўна, спадзяваўся, што Лябедзька проста забудзецца пра такія грошы.

**НА КОНЧЫКУ ЯЗЫКА**



*Іосіф СЯРЭДЗІЧ*

# Суд ці інквізіцыя?

Заўважаю: рука цягнецца да пяра тады, калі думкі, якія раіліся ў галаве доўгі час, міжволі перасяляюцца на кончык языка. Моўчкі пераварваць набалелае далей нельга, трэба выказацца ўслых, адкрыта сказаць пра тое, што безупынна смыліць у душы, не дае спакою.

На гэты раз да публічнасці падштурхнуў не хто іншы, як той, чый крылаты выраз вось ужо амаль 18 гадоў стаіць эпіграфам на першай старонцы "Народнай Волі". Неўміручы Якуб Колас...

Змагаючыся на мінулым тыдні з паскудным вірусам, я вымушаны быў на дзень-другі застацца дома. Узяў у рукі аповесць-эсэ Максіма Лужаніна "Колас расказвае пра сябе". І не адарваўся, пакуль не перагарнуў апошні аркуш. Быццам у люстэрку падаецца жыццё дзядзькі Якуба. Чаго толькі ў ім не спрасавалася, праз якія выпрабаванні не давялося прайсці! Не мінуў беларускі самародак і турэмных цямніц.

І вось гэты сумны факт з біяграфіі славутага класіка не толькі беларускай, але і сусветнай літаратуры выклікаў у мяне шэраг хвалюючых асацыяцый. Расійскі царызм кінуў за краты маладога настаўніка за тое, што ён вёў гутаркі сярод калег і сялян, выкрываючы ўсю агіднасць каланізатарскага рэжыму. А як дзейнічаюць сённяшнія беларускія ўлады? З апанентамі ў іх свой рахунак. Дзе Ганчар? Дзе Захаранка? Дзе Завадскі? Дзе Красоўскі? Патрушчаны лёсы соцень, а магчыма, і тысяч іншых людзей, не згодных жыць ва ўмовах беззаконня, парушэння элементарных правоў чалавека.

Сталае следства па справе маладога Коласа і яго сяброў пачалося з ранняй вясны 1908 года. І цягнулася, як вядома, не адзін месяц. Увесь гэты час настаўнікі, чый з'езд муляў вочы ўладам, былі на свабодзе, займаліся хто чым мог, не абмяжоўваўся і іх пераезд з аднаго месца ў другое.

*— Арыштавалі мяне на судзе,* — успамінаў Якуб Колас. — *На лаву падсудных не саджалі, я даваў паказанні і мог выходзіць з залы. У перапынку паміж пасяджэннямі нават схадзіў пагуляў па горадзе, крыху падмацаваўся...*

*...А тут прысуд, і Кабека, старшыня суда, загадвае ўзяць мяне пад варту. Акалодачны, смаркач, зусім зялёны, хоп мяне за рукаў. "Чаго ты скачаш, як певень? Не хапай, сам пайду!" — помню, сказаў я і адапхнуў яго рукою.*

Чытаючы-перачытваючы аповесць-эсэ Максіма Лужаніна, які яшчэ на пачатку 1998 года падарыў мне сваю кніжку з прыязным аўтографам, я спатыкнуўся і на такім фрагменце ўспамінаў Коласа: *"Пасля суда мы дазналіся, што правоў не пазбаўляемся, толькі нас нельга выбіраць у Дзяржаўную думу. Каб большага клопату не мець! Ліха з ёю, з той думай. Як быццам нехта збіраўся балаціравацца туды. Гэта ўжо ў сямнаццатым годзе маю кандыдатуру меліся выпхнуць на Устаноўчы сейм. Нічога з гэтага не выйшла, дый згоды маёй не было".*

Дзіўны царскі рэжым! То ў адной вёсцы, то ў другой з'яўляюцца палітычныя пракламацыі, у якіх сяляне, плытагоны, рабочыя майстэрань заклікаюцца да бунту, да таго, *"каб стварыць новы ўрад. Які ўрад — добра самі не ведалі, але пісалі "свой, не панскі".* І ніхто нікога не арыштоўваў, не кідаў у вязніцу. Месяцамі цягнулася нуднае следства. І толькі калі справа дайшла да разгляду ў судзе, абвінавачваемыя атрымалі позвы.

Ды і суд не суд! Аўтары падбухторшчыцкіх улётак, удзельнікі не санкцыянаванага ўладамі настаўніцкага з'езда знаходзіліся не ў жалезных клетках, аточаных жаўнерамі, і нават ніхто не прымусіў іх сесці на лаву падсудных, яны свабодна пачувалі сябе ў зале пасяджэнняў. Падчас перапынкаў змаглі нават пагуляць па горадзе, падсілкавацца. А калі суд усё ж вырашыў адправіць "рэвалюцыянераў" у турму, то накіроўваліся туды без кайданкаў. Калі *"акалодачны, смаркач, зусім зялёны"* хацеў закаваць Коласа, той проста *"адапхнуў яго рукою".*

Вось так здзяйснялася правасуддзе ў дні далёкія! А вернемся ў наш час. У калейдаскопе многіх вострых падзей мільгаюць карцінкі, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі 2006 года. "Гарылы" жорстка збіваюць кандыдата ў прэзідэнты, экс-рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прафесара Аляксандра Казуліна. Крывавяць чалавека толькі за тое, што ён хацеў прайсці на Народны сход, дэлегатам якога яго вылучыла сацыял-дэмакратычная партыя. Напярэдзе Аляксандра Уладзіслававіча чакала яшчэ не адна экзекуцыя. Быццам сёння бачу яго, змардаванага, у зале суда падчас агалошвання прыгавору. Пратрымаўшы не адну гадзіну ў "стакакніку", Казуліна, галоднага, у кайданках і пад канвоем узброеных бугаёў, запёрлі ў металічную клетку з таўшчэзнымі пруткамі. З-за знясіленасці ледзь-ледзь трымаюцца на ім нагавіцы, ён просіць папругу — адмаўляюць. Смагнуць губы — адмаўляюць і ў глытку вады. Ці ж не катаванне?! Ці ж не інквізіцыя?!



Па сутнасці, і Якубу Коласу, і Аляксандру Казуліну інкрымінавалася адно і тое ж — удзел у несанкцыянаваных акцыях з адпаведнымі наступствамі. Толькі царскі суд быў больш чалавечны, чым наш сённяшні, беларускі. *"На лаву падсудных не саджалі, я даваў паказанні і мог выходзіць з залы. У перапынку паміж пасяджэннямі нават схадзіў пагуляў па горадзе, крыху падмацаваўся..."* Што б дадаў дзядзька Якуб да сваіх успамінаў, калі б дажыў да нашых дзён?



Адным з першых апазіцыянераў, якім давялося прайсці праз клетку, былі Аляксей Шыдлоўскі і непаўналетні Вадзім Лабковіч. На якое ж дзяржаўнае злачынства яны пайшлі? 25 жніўня 1997 года на сценах грамадскай прыбіральні ў Стоўбцах нанеслі графіці палітычнага зместу. Пазней, трымаючы ў клетцы, судзілі Вадзіма Кабанчука, які даў выспятка спецаператару, што здымаў студэнтаў — удзельнікаў акцыі ў 1998 годзе. Андрэю Клімаву давялося прайсці праз клетку двойчы — спачатку яго судзілі ў 1998 годзе, як прадпрымальніка, а потым, у 2005-м, — за арганізацыю вулічнай акцыі 25 Сакавіка.

Неўзабаве чарга дайшла да Міхаіла Чыгіра, Васіля Старавойтава, Васіля Лявонава, якія адчулі на сабе ўсе "радасці" пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі.



Суды над апазіцыянерамі адбываюцца перманентна. Вунь Зміцер Дашкевіч прайшоў праз клетку ўжо некалькі разоў. Першы раз — у 2006-м за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі (во абвінавачанне!). Што да апошняй прэзідэнцкай кампаніі, то *"ініцыятараў масавых беспарадкаў"* судзілі групамі. У клетках трымалі па некалькі чалавек. Для гэтага ставілі туды па дзве лавы. Сваякі і сябры з судовай залы глядзелі на Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Мікіту Ліхавіда, Андрэя Пазьняка, Аляксандра Класкоўскага, Дзмітрыя Бандарэнку, Аляксандра Квяткевіча, Арцёма Грыбкова праз пруты клеткі. Так было і з некалькімі дзясяткамі іншых удзельнікаў Плошчы.

А што, Алеся Бяляцкага трэба было катаваць у клетцы? Мікалая Аўтуховіча? Юрыя Дорна?

...7 студзеня 2010 года. Над гарадской ёлкай у Віцебску залунаў бел-чырвона-белы сцяг. Узняў яго Сяргей Каваленка. Крымінал? Звычайны адміністрацыйны ўчынак? Абмежавацца б нейкім дробным штрафам — і забыць. Дык не, нацыяналіста — у ізалятар і давай кішкі даставаць. Спачатку далі тры гады ўмоўна, а потым, быццам за парушэнне рэжыму адбыцця пакарання, упяклі ў турму. Калі хлопца, які трымаў доўгатэрміновую галадоўку, дастаўлялі ў судовую залу, яго цела нагадвала косці ды скуру. Плакалі жонка Сяргея, двое яго малых дзяцей, але не плакалі суддзя Алена Жук і пракурор Дзмітрый Лутаў. І, мабыць, не заплакалі б, калі б Сяргей Каваленка памёр у той жа клетцы. Таўстаскурая беларуская Феміда!



Клетка на сцэне, і ў ёй чалавек, які не з'яўляецца ні забойцам, ні буйным, ні нават ужо асуджаным... Гэтыя радкі пра Аляксандра Варламава, нядаўняга кіраўніка вядомага мадэльнага агенцтва. Шматмесячнае знаходжанне яго ў следчым ізалятары адмоўна адбілася на фізічным стане, яму далі другую групу інвалiднасці. Скажыце, навошта яго трымаць у жалезнай клетцы? Куды ён, абапіраючыся на кіёк, можа збегчы?

Так, яшчэ не вынесены прыгавор, яшчэ суд можа апраўдаць чалавека, а яго, як жывёліну, днямі, тыднямі, месяцамі трымаюць у клетцы. Такую меру перасцярогі ў нейкай ступені можна зразумець, калі размова ідзе пра забойцаў, тэрарыстаў, злосных рэцыдывістаў, але навошта запіхваць у клетку нармальных людзей, нават калі яны і парушылі нейкі закон? Каму так хочацца нізводзіць падсудных да стану жывёл? Сапраўды, чаму той жа Варламаў ужо каторы тыдзень, як сабака, сядзіць у клетцы?

Міжнародныя эксперты не аднойчы звярталі ўвагу беларускай Феміды на тое, што калі да высвятлення прысуду суддзі абыходзяцца з абвінавачваемымі як з небяспечнымі злачынцамі, не ўлічваючы характар іх учынкаў, то такім чынам яны ўскосна фарміруюць ва ўсіх удзельнікаў працэсу негатыўнае стаўленне да падсудных. Але ж, бачым, пляваць нашым суддзям на парады збоку.



Не, царскі суд, які судзіў Якуба Коласа, быў больш літасцівы да людзей. Сённяшняе беларускае правасуддзе з нейкім нецывілізаваным аблічам. І гэта не робіць гонару ні ўладам, ні ў цэлым краіне.




**ТЮРЕМНЫЕ НРАВЫ**

## *Ольга АБРАМОВА: «Я решила, что Статкевича уже освободили, а я об этом еще ничего не знаю...»*

*Экс-депутату Палаты представителей Ольге Абрамовой вернули из тюрьмы заказное письмо для Николая Статкевича.*

— Мы некоторое время переписываемся с Николаем Статкевичем, — *рассказала "Народной Воле" Ольга Михайловна.* — Пару недель назад я заказным письмом отправила для Николая Викторовича две книги. Дело в том, что в предыдущих письмах Статкевич сообщил, что может получать книги без ограничений только письмами или пакетами, а вот на бандероли есть ограничение — лишь две в год. Соответственно, я учла его пожелания по жанру, а сын помог мне выбрать из мировой классики два фантастических романа. На почте я еще раз на всякий случай уточнила у сотрудников, имею ли право заказным письмом отправить в тюрьму художественную литературу. Там подтвердили — да, пожалуйста. И через некоторое время приходит извещение, что мне следует забрать мою корреспонденцию обратно. Я вначале решила, что, может, Статкевича уже освободили, а я об этом просто еще ничего не знаю...

Когда выяснила, что Статкевич по-прежнему за решеткой, отправилась на почту, ибо именно с ними вступила в договорные отношения, а они не оказали мне уже оплаченную услугу. Руководитель почтового отделения связалась с исправительным учреждением, в котором находится политик, и там объяснили: мол, Статкевичу не положено получать книги. На следующий день я сама позвонила в тюрьму, и мне сказали то же самое. Для меня эта ситуация совершенно не понятна. Тем более что Николай Викторович — человек опытный, и он вряд ли стал бы писать о том, что ему можно посылать книги, если бы не был в этом точно уверен.

Я проконсультировалась с юристом Гарри Петровичем Погоняйло, который подтвердил, что я имела право отправить книги заказным письмом, а Статкевич должен был их получить. Юрист порекомендовал мне обратиться к прокурору Могилевской области, что я обязательно сделаю.

Очень надеюсь, что ситуация разрешится положительным образом и что это не какие-то санкции, введенные персонально в отношении Николая Статкевича...

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**

## *Депутатов и чиновников — на сутки в тюрьму!*

*Такое предложение Ольга Абрамова не раз озвучивала в Овальном зале.*

— Мне кажется, к этой инициативе не поздно вернуться и сейчас, — *говорит бывший депутат.* — Я предлагала в качестве депутатской учебы отправиться на сутки в тюрьму. И не просто с экскурсией, а провести там день или сутки по всем правилам, когда посетители будут находиться в камерах в тех же условиях и с теми же правами, что и заключенные. Такие обязательные ролевые игры для чиновников, депутатов и судей были бы чрезвычайно полезными. Потому что от сумы и от тюрьмы в нашем пространстве никто не застрахован. И к осужденным нужно относиться как к людям. Может быть, если бы некоторые испытали "тюремный рай" на собственном опыте, то наше законодательство не было бы настолько репрессивным, да и приговоры носили бы более гуманный характер...

## *Марина СТАТКЕВИЧ: «Муж пишет мне письма по определенным дням недели»*

*Супруга экс-кандидата в президенты уже даже не удивляется, когда слышит истории о том, что чье-то письмо не дошло до Статкевича или, наоборот, что муж не отвечает на чьи-то письма.*

— К сожалению, на протяжении всего времени нахождения Николая в исправительных учреждениях предпринималось ограничение его контактов с внешним миром, — говорит Марина. — И прежде всего это касалось получения им любых текстов, написанных не от руки. Хотя должна заметить, что и письма от друзей и людей, которые хотели бы его поддержать, он начал получать, хоть и ограниченно, относительно недавно. А так его переписка практически всегда блокировалась.

Что касается нашего с ним общения в письмах, то мы договорились так: он пишет мне только по определенным дням недели. И от этого правила Николай никогда не отступает. Если вдруг посылает еще одно письмо, обязательно ставит на нем пометку — дополнительное. И я четко по датам контролирую их получение.

А что касается печатного текста, то его из писем просто изымают. Хотя, казалось бы, какая разница? И, кстати, далеко не ко всем осужденным применяются такие строгие правила, связанные с перепиской...

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 КРАСАВІКА 2013 г.

ДИСКУССИЯ

# Праймериз или диалог? Я — за диалог!

Еще в 2007 году на Конгрессе демократических сил говорилось о возможном диалоге с властью через системную политику, потом это забылось и ушло в небытие, как и многие другие проекты.

Однако людям не нужны "октябрьские перевороты", братоубийственные гражданские войны, репрессии, голодомор, потрясения. Трезвомыслящим белорусам надоело тупое, как сейчас, многолетнее противостояние власти и оппозиции. Об этом свидетельствуют и социологические данные НИСЭПИ. 35 процентов населения ждут, что оппозиция предложит правительству диалог. Этого хотим и мы, участники ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС. Мы, чернобыльцы, проявив мужество, героизм и преданность Родине в тяжелых условиях, теряя здоровье, с риском для жизни обеспечивали снижение уровня радиации в 30-километровой зоне и не допустили в пределах возможного ее распространения. А нас предала власть и не всегда помнят в обществе.



Мы, чернобыльцы, как и все общество, находимся накануне подготовки к президентским выборам 2015 года и до сих пор не знаем, что делается политической оппозицией для подготовки к важнейшей избирательной кампании. Уже надо бы определиться по единому кандидату, а чтобы сделать этот главнейший шаг, необходимо согласовать, каким образом его достичь в условиях непопулярности политической (коммерческой, поскольку некоторые с этого живут) оппозиции.

В настоящее время оппозиция не едина, часть живет в стране, чувствует дыхание Родины, что-то делает. Другая часть (может, и большая) живет за границей и под диктовку неизвестно кого создает там "белорусские дома", "фонды", "клубы" и прочее, держа руку на пульсе своего личного благополучия. Возвращайтесь домой, пока не поздно, есть чем заниматься здесь, на родине.

Как всех объединить и надо ли это? Как найти единого кандидата от демократических сил? Предлагают праймериз, конгресс, а может, стоит лучше подумать над тем, как использовать проведение диалога, предложенного оргкомитетом Республиканского общественно-просветительского объединения (РОПО) "Социал-демократы за диалог и консолидацию", для старта и проведения президентской избирательной кампании? Не надо сбрасывать со счетов и то, что стратегия "За диалог и консолидацию", основанная на четырех "К" (компромисс, конструктивизм, консенсус, консолидация), которую предлагает Анатолий Левкович, позитивно оценена Советом Европы, отвечает ожиданиям абсолютного большинства людей и тем самым точно попадает в цель общественных предпочтений и ожиданий белорусов.

В нынешней ситуации, когда лидеры белорусских политических партий не способны решать эти вопросы, необходимо разбудить гражданское общество, пребывающее в летаргическом сне. Обращение Анатолия Левковича и Александра Микулина к гражданскому обществу, политической оппозиции и власти о необходимости диалога, по сути, может стать новой качественной ступенью в развитии белорусского политического процесса и общества в целом. К тому же диалог, безусловно, станет хорошей площадкой для единого альтернативного кандидата на высший государственный пост в 2015 году от всех общественных сил, которые хотят перемен и которых, как показывают последние исследования независимых социологов, сегодня 60 процентов, то есть большинство.

А может, избрание единого пустить на самотек и пусть в 2015 году будет 15 кандидатов? Опыт уже есть, в 2010 году было 10 кандидатов. Видимо, в 2020 году нужно будет счет поднимать до 20 кандидатов, а в следующую пятилетку еще на пяток увеличить? Так и хочется спросить у бывших и будущих кандидатов (массовиков-затейников): а есть ли у вас совесть и ответственность за страну, господа-товарищи?!

Надо менять старых оппозиционных вожаков. Обновить и передать бразды правления новым силам, молодым, чтобы народ (а не некий добрый дядя) воспринимал оппозицию, как свое родное дитя, и лелеял ее. Надо отбросить в сторону все обиды, кому и что не досталось от обещанного, а стать выше личных амбиций и начать думать о Беларуси. Настало время перемен, сплочения и защиты белорусской государственности и суверенитета. До кого это не доходит (не важно, власть это или оппозиция), все они, видимо, уже просто не в состоянии постигнуть, что такое истинный патриотизм и как истинные патриоты должны любить свое Отечество, свой народ и свою страну.

Необходимо создать свои национальные "Саюдисы" и "Солидарности". Дистанцироваться от тех, кто получил задание доказывать, что такие организации не нужны и вредны для кого-то.

Только единая цель — демократическая и независимая Беларусь, национальное суверенное государство и предложенный оргкомитетом РОПО путь диалога — могут всех нас сплотить для стабильного и успешного развития страны.

**Анатолий ГНЕВКО, председатель Витебской областной организации "Республиканской организации пострадавших от аварии на ЧАЭС" (зарегистрированной в Киеве), ветеран Белорусской социал-демократической партии (Громада), полковник в отставке, ветеран Вооруженных сил.**

*Витебск.*

ЕСТЬ ИДЕЯ!

## *Как защититься от шведских самолетов*

Все-таки хочу вернуться к такому неординарному событию, как "медвежий десант". И к тому, как государственную границу держать на замке. То, что на земле и при ней, — ясно, это отработано, и достаточно средств, чтобы "мышь не прошмыгнула". Интереснее с воздушной границей. То, что ее постоянно нарушают пернатые, досадно, но приходится мириться. Другое дело, когда это делают умельцы на летательных аппаратах. Со средними и большими высотами, можно сказать, все более-менее благополучно. Там сплошное поле видимости радиолокационных станций, остается только не зевать. А вот на малых высотах такого поля нет, видны только небольшие очаги вблизи РЛС. Раструб видимости-обнаружения расширяется уже на средних высотах.

Мне на военной службе в ПВО довелось это "проходить" в качестве перехватчика, а когда отлетал — планировать и проводить проверку дежурных сил полетами контрольных самолетов. На малых высотах, как правило, случались пропуски, если не удавалось добыть информацию иным способом, с подсказкой от экипажа, диспетчера... Наказывали и командиров корпусов и начальников родов войск, но они не могли предотвратить пропуск в будущем. Поэтому меня не удивил полет Руста из Финляндии на Красную площадь во времена СССР и почти через 30 лет, в июле 2012 го, — пролет легкомоторного самолета из Литвы до Минска и обратно. Реакция руководства государства в обоих случаях понятна. Но она не устраняла корень зла. И если бы нашелся доброволец прощупать их натовские границы, не думаю, что там оказались бы глазастее.

Но что-то ведь надо делать.

Раз средние и большие высоты надежно просматриваются снизу, то, соответственно, малые должны не хуже видеться сверху. Для чего спутники? Они уже прощупывают всю земную и водную поверхность, "водят" автомобили. Почему спутники не могут выделить движущиеся объекты, находящиеся, скажем, на высотах от 30 до 600 метров? Это же дело фантазии и техники. То же с определением госпринадлежности целей. Кроме того, почему бы не использовать мачты Velcom, МТС для установки мини-РЛС?..

Если мое предложение кому-то покажется наивным, тогда очередь за более продуктивными. Но что-то делать надо.

**Николай Николаевич КОВАЛЕВСКИЙ.**

*Минск.*



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Хоць ты крычма закрычы: зноўку ў модзе «стукачы»*

**Мінская падатковая інспекцыя папрасіла гараджан званіць па тэлефонах даверу і расказваць аб сваіх суседзях, якія здаюць кватэры без выплаты падаткаў. І тэлефоны літаральна "закіпелі" ад перанапругі. Прычым "стукаюць" на сваіх суседзяў спрэс пенсіянеры...**

*Народ пайшоў сягоння гадкі:*
*Або ўкрадзе, або ўварве...*
*"Як мне не заплаціць падаткі?" —*
*Пытанне ў кожнай галаве.*
*(Хоць вытлумак такой напасці*
*Я, далібог, магу знайсці:*
*Як можна не ўтаіць, не ўкрасці*
*Пры нашым сённяшнім жыцці?*
*Люд заслугоўвае спагады,*
*Бо ўсе цяпер як жабракі.*
*А вінаваты хто? Улады!*
*Эканамічны курс такі...)*
*Хто ж абнахабіўся не ў меру,*
*Не плаціць у казну рублі*
*За тое, што здае кватэру?*
*Так званы тэлефон даверу*
*Для ўсіх чыноўнікі ўвялі.*
*Як скмеціш, што ў свае "харомы"*
*Студэнтку падсяліў сусед,*
*Дык у інспекцыю, вядома,*
*"Накапаць" на распусту след.*
*Калі ў дамку цераз дарогу*
*Жывуць падпольна цыганы,*
*Адразу падымай трывогу*
*І бі, як кажуць, у званы!*
*Сумленне ставіцца на шалі,*
*Дык, абывацель, не маўчы!*
*Ну, словам, нам прапанавалі*
*Запісвацца*
*У "стукачы".*
*Без асаблівае ахвоты*
*На гэты кліч азваўся люд:*
*У кожнага свае турботы,*
*Свае патрэбы, свой "хамут".*
*Затое, бач, пенсіянеры*
*Нібы зляцелі з ланцуга.*
*Прычым не толькі пра кватэры,*
*Рашылі так, казаць ільга.*
*Што чуюць вушы, бачаць вочы —*
*Пра ўсё старыя шлюць званкі.*
*Даверу тэлефон да ночы*
*Звініць — аж рвецца на шматкі.*
*— У Соні, у маёй суседкі, —*
*Крычыць у трубку дзед Антон, —*
*Начамі гвалт бясконцы гэткі,*
*Як быццам там бадзяг прытон.*
*А мусіць жа, суседка Соня*
*І грошы з тых бадзяг бярэ.*
*Ці плаціць жа падаткі сёння*
*Яна ў казну? Праверыць трэ...*
*"Сігнал" ад бабы Зіны важкі:*
*— Апоек кончаны Пятрок*
*Па закутках збірае пляшкі,*
*За грошы іх здае ў ларок.*
*Затым ідзе да магазіна,*
*За тыя грошы бырла п'е.*
*Не плаціць ён, — сігналіць Зіна, —*
*Падаткі з выручкі свае.*
*І дзед Макар, якому дуба*
*Пара даваць, зрабіў званок:*
*— Суседка маладая Люба*
*Мяне "распальвае" знарок...*
*Такія ў Любы ягадзіцы,*
*Што мне начамі не да сну...*
*І хтось бывае ў маладзіцы —*
*Я гэта чую скрозь сцяну!*
*Адтуль жа слодычныя стогны*
*Даходзяць да маіх вушэй.*
*Хтось Любу мацае за сцёгны*
*І, мусіць жа, яшчэ вышэй...*
*Не веру я, што з мужыкамі*
*Суседка Люба спіць за так.*
*Ці плаціць — вы праверце самі —*
*Падаткаў хоць які пятак?*
*Іспыты след зрабіць для Любы:*
*Я даць гатовы тысяч пяць,*
*Каб патрымаць яе за клубы...*
*А потым будзем правяраць!*
*Старая Тэкля нат на зяця*
*"Сігнал" паслала ў тэлефон:*
*— На ўскрайку мы жывём, у хаце.*
*І зяць мой цісне самагон.*
*Прадаў ён столькі гэтай гары!*
*Падаткаў жа за куш — ані.*
*Купіў "Таёту" за даляры,*
*А калісь ездзіў на кані...*
*Чаму званю? Стварыў ён пекла*
*І для мяне, і для дачкі.*
*Дык вы аблудзе, — просіць Тэкля, —*
*Як помсту, дайце штраф які...*
*Няспынна "стукаюць" бабулі,*
*Сяброў "закладваюць" дзяды,*
*Бо шмат яны, старыя, чулі*
*І бачылі тады-сяды.*
*Няхай зламыснікам не спіцца,*
*Нікога кара не міне!*
*І расквітнее ў нас сталіца —*
*Падаткаў безліч у казне...*

* * *

*Да нас вяртаюцца патрохі*
*Былыя змрочныя часы:*
*Нібы са сталінскай эпохі*
*Гучаць у трубках галасы...*

*P.S. Новую кнігу Алеся Няўвеся "Слон пад мікраскопам", а таксама папярэднія зборнікі сатырыка можна купіць у мінскай кнігарні "ЛогвінаЎ" (пр. Незалежнасці, 37а).*

ЛИЧНЫЙ ОПЫТ

## *Циклон в головах*

В материале "Белый ад" за 19 марта рассказывалось о циклоне "Хавер", который 15—16 марта накрыл Минскую и Могилевскую области. Почему-то считается, что Брестскую область он затронул не очень сильно. Но это не так.

По случаю печальному (добиралась на похороны родственника) я 15 марта на дизеле приехала в родной Янов—Полесский, или Иваново. Кое-как добрались до автостанции, где на несколько часов в ожидании рейсового автобуса в родную деревню Псыщево к тому времени застряла моя родная сестра Катерина.

Пока ожидали транспорт, мы стали свидетелями разыгравшейся трагедии. На перекрестке на выезде из Иваново случилась жуткая авария. Столкнулись большегрузная фура и легковая "Ауди", да так, что фура перевернулась вверх колесами. Между Иваново и Пинском в многокилометровой пробке застряли тысячи автомашин. Дорога — как стекло, хоть становись на коньки...

Но я хочу написать о другом. Об ответственности, или вернее — о нашей безответственности.

При снежных заносах в течение одного часа стоящая машина превращается в сугроб. Как к этому были подготовлены водители? Да никак! А ведь достаточно обыкновенной лопаты. Еще лучше, если бы в багажнике на такой случай был мешок песка. Так говорят специалисты.

Дальше. Пока мы грелись в уютном здании автовокзала Иваново, подошел междугородний рейс "Брест—Лудки". На часах — 20.20, разгар стихии. Тем не менее, зная, что в это время в гигантской пробке застряли сотни, если не тысячи, людей и машин, в том числе и наш рейсовый автобус "Пинск—Тулитичи", дежурная по автовокзалу отправила этот рейс. Туда же, в пробку... Когда возмущенные пассажиры стали спрашивать, почему она отправила автобус на возможную гибель, она ответила, что задержать его... "не имеет права..."

Люди! Ну неужели угроза потери работы из-за принятия неординарного решения, связанного с угрозой для жизни, выше самой человеческой жизни? Что с нами происходит?

**Елена ПЕТРОВА.**

*д.Ткачи Пружанского района.*

НАБОЛЕЛО!

# И жить не хочется, и умереть страшно

Беларусь остается лидером в Европе и СНГ по уровню инфляции, которая уверенно шагает по прилавкам наших магазинов: цены, как грибы после теплого дождя, растут буквально на все. Особенно "взбесились" они на лекарственные препараты. Так, только одна упаковка порошка для ингаляций "Серетид мультидиск" для страдающих заболеванием дыхательных путей теперь стоит 451.150 рублей, за упаковку (60 таблеток) обыкновенной, когда-то дежурной почти в каждой семье венгерской ношпы, которая еще не так давно стоила считанные рубли, теперь придется заплатить 92.000 рублей, а за 20 таблеток логойского иммуномодулирующего "Арпетола" — 49.300 рублей. На упаковке же средства для лечения аденомы предстательной железы "Простамол-уно" (30 капсул) вместо 25.000 рублей теперь красуется цифра 103.300. И т. д. и т. п.

И эти примеры не единичны. Совсем недавно отмечен дикий всплеск цен (тут, как говорят, даже язык не поворачивается) на медпрепараты для сердечников и страдающих опухолевыми заболеваниями. Не зря же в народе уже стал расхожим анекдот о том, как на просьбу клиента продать ему слабительное, аптекарша совершенно серьезно отвечает: "А зачем вам слабительное? Достаточно взглянуть на наши цены, а также цены в магазинах!" К тому же на днях в некоторые поликлиники Минска поступило устное и, похоже, "секретное" распоряжение не направлять больных пенсионеров в наиболее оснащенную 2-ю городскую больницу. Видимо, кому-то показалось, что эти немощные бедолаги своим жалким, убогим видом портят внешний блеск этого медицинского учреждения. Иначе чем объяснить такое более чем абсурдное, я бы сказал, нечеловеческое решение?!

А, похоже, по-другому у нас и быть не может. Только что с удивлением узнал, что в 2006 году расходы на социальную политику были у нас в пределах 9,33% госбюджета, а в 2012-м — только 6,83%. И в это же время общегосударственные расходы (это содержание президента, правительства, судов, прокуратур, милиции, КГБ и т.п.) в 2006 году составляли 32,84% госбюджета, а в минувшем году — уже 52,65%. Ну что тут скажешь? Поэтому неудивительно, что многие из недавно еще состоятельных наших стариков ходят в магазины и аптеки, как в музеи, — подивиться ценам. А ведь почти у каждого из них на черный день, как правило, были припасены советские банковские сбережения, у многих весьма солидные. В отличие от всех других стран СНГ только в Беларуси они превратились в обыкновенную труху, абсолютное ничто. И это несмотря на многочисленные громогласные обещания наших властных и банковских структур вернуть обобранным до нитки уже пожилым людям, никогда не жалевшим для своей Родины ни сил, ни здоровья, украденные у них социально ориентированным государством банковские сбережения. Почему-то не услышанными до сих пор остаются и многократные распоряжения нашего президента по этому поводу.

Деловые госчиновники придумали для обобранных до нитки еще один "успокоительный" подарок. Так, вдруг "обедневший" Минский горисполком решил сразу аж на 80% увеличить максимальные тарифы на ритуальные услуги. Потом чиновники, правда, стали говорить, что тарифы будут увеличиваться поэтапно и сразу якобы только на 30 процентов. Но решение Мингорисполком принял. И если раньше максимально за копку могилы в зимний период вручную могли брать 380.000 рублей, то теперь уже — 747.600. Максимальный тариф на изготовление гроба с обивкой теперь составляет 236.100 рублей, а раньше был 120 тысяч. И это не учитывая стоимости материалов. Это только тарифы на услуги, стоимость основных и вспомогательных материалов оплачивается заказчиком дополнительно. Поэтому наши независимые СМИ совершенно справедливо и не без горькой иронии так высказываются по этому поводу: "Одним словом, надо жить. Ибо даже скромные похороны не каждому будут по карману".

А закончить эти мои короткие печальные заметки хочется словами: "Воистину страшное время настало для наших бесстыдно обобранных государством беспомощных стариков и людей, скованных тяжелыми недугами, — и жить не хочется, и умирать страшно". И еще спросить: разве такое допустимо в нормальной и тем более социально ориентированной стране?! И станет ли от подобных деяний наше государство богаче и счастливее? Ответ здесь, как мне кажется, всем очевиден. Только, к великому сожалению, не нашим властям и банкирам. Они, видимо, запамятовали, что нельзя на чужом горе и бедах строить свое счастье. Да и "счастье" это в кавычках, оно всегда призрачно и недолговечно.

А может быть, я в чем-то заблуждаюсь? Чего-то недопонимаю? Поэтому хотелось бы, чтобы сложившуюся в стране ситуацию с безудержным ростом цен на лекарственные препараты, введением новых тарифов на ритуальные услуги, почти еженедельным удорожанием продуктов питания и с уже более чем двадцатилетними пустыми обещаниями вернуть людям их "приватизированные" нашим социально ориентированным государством советские банковские сбережения прокомментировали в СМИ сами госчиновники и специалисты банковских служб. Но прокомментировали детально, доказательно, без всяких демагогических ухищрений, словоблудия и пустословия.

**Константин РОМАНОВСКИЙ, пенсионер.**

*Минск.*

БОЛЬ

# Даруй мне, родная хата...

Ты са мной была ад калыскі — драўляная, са светлымі вокнамі, невысокім акуратным ганкам. Стаіш у ціхай вёсачцы, што ў Валожынскім раёне на Міншчыне, з аднаго боку аперазаная чыгункай, а з другога — векавым лесам. Я пакінула цябе ў далёкім маленстве, калі асірацела і стала нікому не патрэбнай у родным кутку. У дзіцячым доме на казённым ложку, накрыўшы галаву падушкай, я па начах душылася слязамі ад суму па табе, мая любая родная хата. Ты часта прыходзіла да мяне ў снах, і я ніяк не магла дачакацца канікул, каб зноў убачыць цябе, адчуць тваё цяпло, нібы цяпло самага роднага чалавека.

Калі, бывала, ідучы з чыгуначнага паўстанка, здалёк бачыла твае сінія вокны, сэрца заходзілася ад радасці, на вочы набягалі слёзы. І адразу прыгадвалася, як ты выправіла ў апошні шлях сваю маладую гаспадыню — маю маці, а праз нейкі час і тату. І засталася зусім адна. А я, нібы путамі, звязаная горам, жыццёвымі нягодамі, стала рэдка пераступаць твой парог, і ты, напэўна, забыла мяне. Забыла тупат маіх малых босых ног па падлозе і тое, як я, стоячы перад абразамі на каленях, прасіла ў Бога ласкі і лепшай долі. А можа, і не забыла? Проста сказаць не можаш...

Цяпер некалі чыстыя — ажно ззялі ў іх промні сонца! — вокны занавешаны занавескамі, нібы зацягнутыя бяльмом. І ты ніяк не зразумееш, чаму так сталася? Чаму многія дзесяцігоддзі ніхто не косіць вакол цябе траву, не садзіць у агародзе грады, не абірае пладоў са старых яблынь?

Так, як і ты, я старэю, толькі далёка ад цябе. Бяссоннымі начамі яскрава ўяўляю, як адзінока стаіш ты ў заснежанай вёсцы побач з такімі ж пакінутымі і закінутымі хатамі, дзе некалі звінелі дзіцячыя галасы, рупіліся на падворках гаспадары: Часноўскія і Страшкевічы, Касабуцкія і Селівоны, Маліноўскія, Гардынцы, Сухалеты, Рубаны і іншыя. Амаль усіх ужо няма на свеце, таму і іхнія хаты ледзяняць маю душу адзінотай.

Не магу забыць тыя часіны, калі твае вокны-вочы не былі зацягнуты бяльмом занавесак, калі разам са мной радавалася ты кожнаму дню. Асабліва тады, як з бліжэйшых палёў у гумны вазілі снапы збожжа. Якая гэта была цудоўная пара! Дарослыя мужчыны і хлапчукі-падлеткі ганарова сядзелі на высокіх вазах, і за імі ўздымаліся клубы пылу. Не толькі вазы, але і гэты пыл пах сонцам, збожжам, радасцю маладога жыцця. На вузенькай вуліцы ледзь разміналіся поўныя і пустыя вазы, а фурманы прыязна ўсміхаліся адзін аднаму.

Цяпер, мая мілая хата, ніхто на нашай вуліцы не ўсміхаецца. Няма каму. Толькі іншы раз чуецца плач, калі вязуць на Вішнеўскія могілкі на вечны спачын яшчэ аднаго вяскоўца, што прайшоў свой зямны шлях.

Ты, напэўна, памятаеш і зімовыя забавы, што ладзіліся тут, бо колькі было ў вёсцы дзяцей і моладзі! Непадалёк ад цябе была высокая гара, дзе да самай марознай ночы каталіся на санках і лыжах. Дарослыя хлопцы прыцягвалі сюды вялікія сані і каталі на іх дзяўчат, а мы, малыя, валаклі свае маленькія саначкі, самаробныя лыжы і таксама каталіся з гары. Бывала, разбівалі сабе насы і лбы, але не плакалі, бо хіба гэта быў боль? Будзеш плакаць, то бацькі больш не пусцяць.

Боль прыйшоў такі пякучы і гарачы, што высушыў слёзы, і ў самы цяжкі час я не магла плакаць, а глядзела на ўсё сухімі вачамі, баючыся, каб не вылецеў з грудзей цяжкі стогн, падобны на стогн параненага звера. Гэта ўсё было потым, гэтага ты не бачыла, родная хата, і мне было яшчэ цяжэй, што не бачыш. Здаецца, побач з табой было б лягчэй.

А ці памятаеш ты, якія цудоўныя яблыкі раслі ў татавым садзе? Такіх, мабыць, не было ні ў кога ў вёсцы, бо тата вельмі любіў займацца садаводствам. Яблыкі гэтыя кашамі бралі вяскоўцы, у якіх год быў неўраджайным, і я вельмі радавалася, што людзі могуць паласавацца імі. Мы з татам клалі смачныя плады на гарышча, і яны захоўваліся амаль да самай вясны. Моцныя, духмяныя, з дзівосным смакам. Такіх дзіўных яблыкаў я не ела ніколі ў жыцці.

Іншы раз думаю: жалоба і боль напаўняюць сэрца, калі памірае чалавек, а як жа цяжка на душы, калі паміраюць цэлыя вёскі, хаты, у якіх выраслі пакаленні людзей. Усё адыходзіць у нябыт. Чаму, за што гіне наша родная мова, наша мілая Беларусь? Замест хат абапал вясковых вуліц расце кустоўе, як, напрыклад, у суседняй Гуце. Там ціха, як на могілках: не чуваць людскіх галасоў, сабачага брэху, спеву пеўняў. Стаяць пахіленыя платы і гаспадарчыя пабудовы, на стрэхах прабіваецца кустоўе.

Даруй, родная хата, што пакінула цябе паміраць у адзіноце, даруйце ўсе вёскі і хаты, што ў апошнія часіны няма пры вас гаспадароў. Старыя памерлі, маладыя ўцяклі, назаўсёды збеглі з калгаснага "раю". Мы, можа, і вярнуліся б, каб тут было годнае жыццё. Не ўсе, вядома, але многія вярнуліся б.

Адно ведаю: колькі будзе біцца сэрца, я не забуду цябе, мая родная хата. І, паміраючы, на апошнім дыханні буду ў думках лавіць сонечны прамень на тваіх вокнах...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

НУ И НУ!

## *Что за курс такой?*

Недавно столкнулся с интересным фактом, касающимся правил реализации билетов национальной авиакомпанией "Белавиа".

Стоимость авиабилета из Минска в Москву и обратно составляет 154 евро на человека.

Для сравнения приведен расчет стоимости для двух пассажиров при бронировании с сайта авиакомпании. На двоих — 308 евро.

В то же время, если вы хотите оплатить эти билеты безналичным перечислением денег, то получите счет на 4,8 миллиона рублей!

Что это за курс такой у авиакомпании?

**О.М.ВАСИЛЕВСКИЙ.**

*Минск.*

